БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА



# ЧЫРВОНАЯ ЧЗ ЗМЕНА

15 сакавіка 1994 г.

Аўторак

№ 29(13746)

Кошт у розніцу 50 рублёў

Выдаецца з 1921 года

Малюе Віктар ДУБОВІК




## Кур'ер "ЧЗ"

Трагедыі польскага і венгерскага народаў, адлюстраванай у дакументах і фотаздымках, прысвечана выстава "Познань-Будапешт-1956", якая пачала сваю работу ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Рэспублікі Беларусь.

**Фота Аркадзя МІКАЛАЕВА.**

### Беларусь – Вялікабрытанія: старт дадзены

*У пачатку сакавіка ў Вялікабрытаніі з афіцыйным візітам знаходзілася ўрадавая дэлегацыя Рэспублікі Беларусь. Вынікам паездкі была прысвечана прэс–канферэнцыя для журналістаў, якую праводзіў старшыня Дзяржкамітэта па знешніх эканамічных сувязях У.Радкевіч.*

У час візіту былі падпісаны двухбаковыя міжурадавыя пагадненні аб эканамічным супрацоўніцтве і аб абароне інвестыцый. У гэтых дакументах запраграміраваны асноўныя прынцыпы, якімі будуць кіравацца абедзве дзяржавы ў гандлёва-эканамічным супрацоўніцтве. Былі вырашаны пытанні аб тым, як пазбегнуць двайнога падаткаабкладання і аб выкарыстанні мінімальнай пошліны. Пагадненні дадуць старт пашырэнню дзелавых кантактаў паміж Беларуссю і Вялікабрытаніяй. Брытанскі бок зацікаўлены ўжо зараз купіць у нас трактары і МАЗы для продажу іх на рынку "трэціх" краін.

Адна з буйнейшых кампаній Вялікабрытаніі "БАТ ІНДАСТРЫЗ", якая займаецца вытворчасцю тытунёвай прадукцыі і фінансавымі паслугамі, прапанавала сваю дапамогу ў рэканструкцыі Гродзенскай тытунёвай фабрыкі.

**Ірына ШУКЕВІЧ.**

### Цэны зноў пайшлі ў адрыў

*Не падаспела яшчэ абяцанае з 1 красавіка павышэнне мінімальнай зарплаты, а цэны пачалі ўжо расці. Так, з 12 сакавіка падняліся яны ў 2,5 раза на чорны хлеб.*

Цяпер замест 120 рублёў за бохан трэба будзе выкладваць 300 рублёў. І гэта, бачна па ўсім, яшчэ не мяжа...

**Анатоль СЦЯПАНАЎ.**

### Пад кантролем

*Дэпартаменту цэн і Міністэрству фінансаў рэспублікі даручана "ўнесці прапановы, якія забяспечаць абмежаванне росту цэн на асноўныя сацыяльна значныя тавары". Такая рэакцыя ўрада на патрабаванне Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі ўзмацніць кантроль за цэнамі з боку дзяржавы.*

А прычыны, з-за якіх ФПБ звярнулася да ўрада з такім патрабаваннем, ляжаць на паверхні. За апошнія тры гады рознічная цана на асобныя тавары, прадукты харчавання, лекавыя прэпараты павысілася ў сотні, а то і ў тысячы разоў. Напрыклад, кошт найпрацейшага сардэчна-сасудзістага сродку — валакардзіну — павялічыўся ў 14 тысяч разоў. Такі празмерны рост цэн, асабліва на тавары першай неабходнасці, правакуе ўзмацненне сацыяльнай напружанасці, лічыць ФПБ. Таму прафсаюзы прапанавалі ўвесці практыку ўстанаўлення на дагаворнай аснове паміж дзяржавай і суб'ектамі гаспадарання фіксаваных адпускных і рознічных цэн, а таксама тарыфаў на важнейшыя спажывецкія тавары і паслугі. А прадпрыемствам, якія заключылі такія дагаворы, — вызначыць меры дзяржаўнай падтрымкі.

**БЕЛІНФАРМ.**

### Ці будзе ў нас "алмазная" будучыня?

*У кастрычніку 1991 года група навукоўцаў, якія займаліся стварэннем тэхналогіі вырошчвання штучных алмазаў, пакінула Акадэмію навук Рэспублікі Беларусь, каб самастойна прадоўжыць даследаванні. Пазней гэтымі людзьмі быў створаны першы незалежны Інстытут праблем вымярэнняў (ІПВ). За два гады існавання інстытут змог ушчыльную падысці да вытворчасці штучных алмазаў.*

У сувязі з гэтай падзеяй днямі ў Інфармацыйна-культурным цэнтры была дадзена прэс-канферэнцыя. На пытанні журналістаў адказалі прадстаўнікі інстытута.

Яны расказалі, што ўпершыню ў нашай рэспубліцы распрацавана тэхналогія прамысловай вытворчасці штучных алмазаў на дзвюх аўтаматызаваных лініях, якія могуць забяспечваць да 1 мільёна карат у год. Гэта не толькі дасць магчымасць насыціць патрэбы рэспублікі, але і паслужыць выгаднай часткай экспарту. Ужо вядзецца ў гэтым накірунку работа з шэрагам арганізацый Германіі, Польшчы, Швейцарыі.

Новая тэхналогія дазваляе вырабляць 20—25 карат штучных алмазаў за адзін цыкл (у іншых лабараторыях усяго 4—8 карат) і знізіць іх сабекошт на 40 (!) працэнтаў. Немалаважны і той факт, што пры вытворчасці могуць выкарыстоўвацца беларускія зыходныя матэрыялы.

Застаецца дадаць, што на сусветным рынку алмазы каштуюць 2000 даляраў за кілаграм.

**Франц ЛЯВІЦКІ, ЧЗ-інфарм.**

### Міліцыя за партай

*АСТРАВЕЦ. У мясцовых міліцыянераў з'явіўся яшчэ адзін даволі нетрадыцыйны занятак — кожны тыдзень яны збіраюцца ў астравецкай СШ № 2 і вывучаюць беларускую мову.*

Для іх складзена спецыяльная праграма, разлічаная на кароткі тэрмін.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

### Доктар прыходзіць у дом

*Малое прадпрыемства "Арцыхоўскі і Кª", якое з'явілася нядаўна ў Гродна, адзінае ў горадзе, узяло на сябе медыцынскае абслугоўванне ў хатніх умовах цяжкіх хворых, адзінокіх і састарэлых людзей, інвалідаў, ветэранаў вайны і працы.*

У штаце прадпрыемства — вопытныя ўрачы-спецыялісты самых розных вузкіх напрамкаў, а таксама медыцынскія сёстры, сядзелкі і нават повар, які па заказу гатуе хворым дыетычныя стравы.

**Лілія АСТРАВЕЦКАЯ.**

### Таксі патаннела

*Прыемны сюрпрыз для мінчан зрабіла кіраўніцтва таксапарка № 2. Паводле слоў яго дырэктара Вячаслава Дробыша, цэны на заказах зніжаны з 800 да 600 рублёў за адзін кіламетр.*

Для гэтага таксістам прыйшлося адмовіцца ад паслуг цэнтральнай дыспетчарскай. Але, нягледзячы на зніжэнне тарыфаў, за 9 дзён сакавіка ў параўнанні з такім жа перыядам мінулага года даходы ўзраслі на 87 мільёнаў рублёў.

**Анатоль СЦЯПАНАЎ.**

Неспрыяльныя дні ў другой палове сакавіка: 18, 25, 28, 30.

### Курсы валют на 14 сакавіка:

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Продаж |
| "Комплекс" | 10000 | 10400 | 6100 | 6400 |
| "Пошук" | 10600 | 10800 | 6000 | 6500 |
| "Прыор" | 10500 | 11200 | 6200 | 6500 |

*Адразу на пяць дзяцей папоўнілася сям'я Кур'ян з Мінска. Да сваіх двух Ірына і Сяргей узялі на выхаванне яшчэ двух хлопчыкаў і трох дзяўчынак. Сям'я атрымала статус дзіцячага дома сямейнага тыпу. Ёй выдзелена прасторная кватэра ў цэнтры горада.*

*Гэта цудоўна, калі дзеці трапляюць у цяпло сямейнага ачага, пазнаюць бацькоўскі клопат і пяшчоту. Вось бы яшчэ клопат і дзяржаўны. На жаль, ні аб забеспячэнні прадуктамі і адзеннем, ні аб дадатковых датацыях, ні аб ільготным набыцці білетаў у тэатры і кіно дзяржава не паклапацілася. А гэта ж усё маюць звычайныя дзіцячыя дамы. Вось і атрымліваецца, што, аддаўшы дзяцей на выхаванне ў сям'ю, улады адразу адхрысціліся ад іх. Маўляў, няхай наваспечаныя бацькі думаюць пра гэта.*

*Што ж, яны думаюць і робяць усё магчымае, каб дзеці не адчувалі сябе абдзеленымі. Хаця зарплаты канструктара і настаўніцы малодшых класаў (такі цяперашні статус Ірыны) не заўсёды хапае нават на самае неабходнае. Дапамагаюць грамадскія фонды, такія, як "Дзецям Чарнобыля", "Міласэрнасць і здароўе", малое прадпрыемства "Зорка".*

*Магчыма, у Міжнародны год сям'і звернуць, нарэшце, увагу на дзіцячыя дамы сямейнага тыпу і дзяржаўныя структуры.*

**Фота Аркадзя НІКАЛАЕВА, БЕЛІНФАРМ.**

## СПОРТ

### "Гран–пры" – у Мінску

Без сумненняў, удаўся юбілейны XXV Міжнародны турнір па вольнай барацьбе на прызы Аляксандра Мядзведзя, які прайшоў з 11 па 13 сакавіка ў мінскім Палацы спорту. Дзякуючы арганізатарам і спонсарам уваход у залу быў свабодны, канцэрт адкрыцця прыгожым і цікавым, спаборніцтвы масавымі і напружанымі, а ў выніку — палац быў увесь час амаль запоўнены. Не кажу ўжо пра вялікую тэлеаўдыторыю. Не абдзяліла юбілей сваёй увагай і ФІЛА, якая надала спаборніцтвам статус "Гран-пры". Турніраў гэтай серыі ў свеце няшмат, як расказаў (дарэчы, на добрай рускай мове) прадстаўнік ФІЛА Васіліяс Пагоніс з Грэцыі. І ўступаюць па класу яны толькі чэмпіянатам свету і Еўропы ды Алімпійскім гульням. Рэкордная колькасць удзельнікаў зафіксавана сёлета — 230 барцоў з 22 краін. Мацнейшая зараз у свеце зборная ЗША прывезла некалькі першых нумароў і бліжэйшы рэзерв, у мацнейшым складзе выступала каманда Германіі. Не здолела паўтарыць леташні поспех (тады было пяць залатых медалёў) зборная Беларусі: у лік трыццаці яе прадстаўнікоў па розных прычынах не трапілі некаторыя з мацнейшых. Захаваў другі год запар першае месца ў катэгорыі да 82 кг толькі гродзенец Аляксандр Саўко. А ў турніры гэта ўдалося яшчэ двум спартсменам. Выступаючы за Германію, былы выхаванец беларускіх трэнераў Арават Сабееў перамог у вазе да 100 кг, а Мерабі Валіеў з Украіны стаў мацнейшым у катэгорыі да 130 кг.

Наогул у гэтым годзе атрымаўся бенефіс украінскіх барцоў. Яны заваявалі чатыры залатыя, два сярэбраныя і адзін бронзавы медалі. У катэгорыі да 52 кг выйграў Уладзімір Тагузаў, да 62 кг — Эльбрус Тэдэеў, да 74 кг — Алан Мзокаў. Самую прыгожую і хуткую перамогу ў галоўных фінальных паядынках атрымаў амерыканец Брайтан Долаф у вазе да 68 кг. Элдар Куртанідзе з Грузіі стаў пераможцам у катэгорыі да 90 кг. У самай лёгкай вазе — да 48 кг — першым стаў Армен Мкртчан з Арменіі, а да 57 кг лепшым быў Назім Аліджанаў з Азербайджана.

А трохразовы алімпійскі чэмпіён і сяміразовы чэмпіён свету сам Аляксандр Васілевіч атрымаў ад беларускіх ("Пушэ", "Эмір") і замежных фірм-спонсараў новенькі чырвоны "Пежо". Прыемна, калі не забываюць.

* * *

Шмат цікавых спартыўных навін пра нашых спартсменаў назапасілася за апошнія дні. Да таго ж, вельмі прыемных.

Святлана Парамыгіна перамагла на 15-кіламетровай біятлоннай трасе ў канадскім Хінтане на чарговым этапе Кубка свету. Яе вынік — 51.15,1(3), а ззаду засталіся француженкі Веранік Кладэль і Ан Брыян. Святлане засталося набраць у трох наступных гонках (спрынты ў Хінтане і Кэнмары, што таксама ў Канадзе, і 15 км там жа) усяго 6 ачкоў, каб "дастаць" лідэра — італьянку Наталі Сантэр. Вельмі жадаем Свеце дадаць да алімпійскага сярэбранага медаля залаты слітак уладальніцы Кубка свету.

Віктар Майгураў дрэнна страляў на дыстанцыі 20 км. Шэсць промахаў — 6 штрафных хвілін, а агульны яго вынік — 1:02.32,3. Не было б гэтага штрафу — і стаў бы другім за італьянцам Вілфрэдам Палхуберам (56.14,6(0)). А так другім стаў расіянін Валерый Кірыенка, на трэцім месцы — немец Франк Люк.

На чэмпіянаце Еўропы па лёгкай атлетыцы ў памяшканнях, што адбыўся ў Парыжы, зборная Беларусі заваявала ўсё ж залаты медаль. Ён на рахунку Наталлі Духновай, якая перамагла ў бегу на 800 метраў. У пяцікіламетровай хадзьбе суддзі дыскваліфікавалі нашага Франца Касцюкевіча за 200 метраў да фінішу, а ён ішоў другім.

І, нарэшце, пра футбол. Пачаў гульні другога круга клуб другой бундэслігі чэмпіянату Аўстрыі ЛАСК з Лінца, за які выступае наш зямляк Аляксандр Мятліцкі. І пасля перамогі 12 сакавіка над "Штокерау" з лікам 3:0 яшчэ больш умацаваў сваё лідзіруючае становішча ў барацьбе за пуцёўку ў вышэйшы клас.

**Яўген ПУЧКОЎ.**



## ЧАРНОБЫЛЬ — НАШ БОЛЬ

# Пакуль гром не грымне, мужык не перахрысціцца

□ **Валянцін БАРЫСЕВІЧ, "ЧЗ"**

*Пакуль няма патрэбы ў дапамозе, службы міласэрнасці быццам бы і не патрэбны. Так разважаюць многія абывацелі. Сярод такіх ёсць і тыя, хто прымаў непасрэдны ўдзел у ліквідацыі вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС. Але, як кажуць, пакуль гром не грымне...*

Асацыяцыя "Шчыт Чарнобылю" была створана параўнальна нядаўна, але на яе рахунку ўжо нямала добрых спраў. Аб поспехах, недахопах і ішла зацікаўленая гутарка на другой канферэнцыі работнікаў праваахоўных органаў — членаў асацыяцыі, якая адбылася гэтымі днямі ў акадэміі міліцыі. З дакладам на тэму "Аб дзейнасці асацыяцыі і перспектывах яе развіцця" выступіў прэзідэнт асацыяцыі "Шчыт Чарнобылю", генерал-лейтэнант міліцыі Уладзімір Савічаў. Не ўтойваючы крытычных ацэнак становішча, ён не адхіліўся ад канцэпцыі даследавання праблем, пошуку выйсця.

Разам з тым, паказваючы ўмовы работы асацыяцыі, канстатуючы цяжкасці вырашэння пэўнага кола пытанняў, звязаных з забеспячэннем членаў сем'яў работнікаў праваахоўных органаў — удзельнікаў ліквідацыі катастрофы медыка-санаторнымі пуцёўкамі, дакладчык сфармуляваў асноўны напрамак дзейнасці асацыяцыі так: забеспячэнне мэтанакіраванай сацыяльна-бытавой і надзейнай прававой абароны пацярпеўшых. Менавіта ў гэтых рамках, як падкрэсліў У.Савічаў, ідзе праца над стварэннем уласнага фінансавага фонду, на разліковы рахунак якога пералічылі ўжо грошы многія камерцыйныя структуры, арганізацыі, калгасы...

Канешне, няма патрэбы паўтараць, што здарылася з многімі ліквідатарамі, — гэта вядома ўсяму свету. Дакладчык, у прыватнасці, нагадаў страшную лічбу: каля ста чалавек ліквідатараў — работнікаў праваахоўных органаў — ужо няма сярод жывых. У росквіце сіл пакінулі гэты свет лейтэнанты Аляксандр Бортнік, Андрэй Павяльчук, старшы лейтэнант Пётр Барысюк і іншыя.

Памяць аб іх была ўшанавана дэлегатамі канферэнцыі мінутай маўчання.

Аднак, працягваў дакладчык, шмат гаворыцца аб былым, а замоўчваецца аб тым, што элементы ўціску, дыскрымінацыі ў рэгіёнах маюць месца. Хоць і ў іншых формах. У прыватнасці, прозвішчы былых ліквідатараў у спісах ільготнікаў на паляпшэнне жылля, устаноўку тэлефона можна напаткаць і сярод "афганцаў", і сярод ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны, але толькі не ў асобным. Да задавальнення карэнных жыццёвых інтарэсаў ліквідатараў справа не даходзіць.

Што і казаць, ланцуг фатальных памылак у эканамічнай палітыцы ўскладніў рашэнне важных пытанняў, звязаных з аказаннем дапамогі пацярпеўшым, ліквідацыяй вынікаў катастрофы на ЧАЭС. І станоўчы той факт, што вакуум, які стварыўся пасля разбурэння каманднага кіраўніцтва і станаўлення эканамічнага метаду кіравання, паступова запаўняюць у абойме грамадскіх арганізацый асацыяцыі тыпу "Шчыт Чарнобылю", якія імкнуцца кансалідаваць, сканцэнтраваць намаганні на канкрэтных справах — аказанні дапамогі, падтрымкі пацярпеўшым, абароне іх інтарэсаў.

Адным словам, асацыяцыя ў членаў у фаворы. Аб гэтым засведчылі і выступы апанентаў дакладчыка, ды і колькасны састаў — арганізацыя аб'ядноўвае 15 тысяч вартавых правапарадку — сведчыць сам за сябе.

У канферэнцыі прынялі ўдзел і выступілі кіраўнікі "пярвічак" асацыяцыі Уладзімір Капачэўскі, Сяргей Арцюхоўскі з Магілёва і Віцебска, начальнікі паліклінік УУС Гомельскага аблвыканкама і МУС Рэспублікі Беларусь Віктар Сушко і Аляксандр Гуткоўскі, генерал-лейтэнант міліцыі, міністр МУС Рэспублікі Беларусь Уладзімір Данько, генерал-лейтэнант міліцыі, пісьменнік Мікалай Чаргінец і іншыя.

Чарнобыль — небяспечнае міннае поле. Вось таму хочацца спадзявацца, што "шчыт" асацыяцыі, дакладна ўвасобіўшы ў жыццё пэўны механізм рэалізацыі праблем, сканцэнтраваўшы сілы на канкрэтных справах, стане альфай і амегай жыцця пацярпеўшых, іх сем'яў — членаў асацыяцыі, якія не чакалі, пакуль гром грымне...

## "Суперчэннэл" — "Еўраньюс" — "TV-5" — "Уорлднэт"



ДЗЕВЯТАЕ НЕБА

*Дзяжурныя па выпуску: перакладчыкі С.КІРЫЕНКА, Д.ЛІТВІН, рэдактар Я.ЯСЭПКІН.*

### Сутыкненне ў водах Турцыі

*Турэцкае грузавое судна і танкер, які належаў Кіпру, сутыкнуліся ў ноч з нядзелі на панядзелак у праліве Басфор у тэрытарыяльных водах Турцыі.*

У выніку сутыкнення і ўзнікшага потым гіганцкага пажару 9 чалавек загінула і 20 паранена. Згодна з паказаннямі сведкаў, грузавое судна, якое рухалася ў Чорнае мора, урэзалася ў танкер. Апошні, гружаны 50 000 тонамі нафтапрадуктаў, раскалоўся ад моцнага ўдару. Вялізная колькасць вадкага грузу вылілася ў праліў.

### Імператар плаціць даўгі

*Імператар Японіі Акіхіта імператрыца Мішыка збіраюцца наведаць у час свайго візіту ў ЗША ў чэрвені атол Пёрл–Харбар, заявіў адзін з высокапастаўленых японскіх дыпламатаў.*

Паведамляецца, што імператар мае намер азнаёміцца з нацыянальным мемарыяльным комплексам Арызоны на адным з Гавайскіх астравоў, які стаў 7 снежня 1941 года першай мішэнню нечаканай для амерыканцаў бомбавай атакі японцаў.

### Крок да аднаўлення мірных перамоў

*Прэм'ер міністр Ізраіля Іцхак Рабін прыняў рашэнне аб забароне дзвюх экстрэмісцкіх груповак, якія ён назваў "тэрарыстычнымі".*

Палесцінскія прадстаўнікі падтрымалі гэта рашэнне, заявіўшы, аднак, аб недастатковасці яго для аднаўлення мірных перамоў, блакіраваных з часу забойства 30 палесцінцаў у Хевроне 25 лютага. Яны працягваюць патрабаваць ад Тэль-Авіва больш рашучых мер. Арганізацыі "Каш" і "Кахан Віт" абвінавачваюцца ў тым, што яны правакавалі беспарадкі ізраільскіх арабаў на акупіраваных тэрыторыях.

### Пінача́та – да адказу?

*Прэзідэнт Чылі Эдуарда Фрэй заявіў, што генерал Аўгуста Пінача́т застанецца на пасадзе кіраўніка ўзброеных сіл да канца 1997 года.*

Новы прэзідэнт краіны адзначыў у той жа час, што яго ўрад будзе працягваць пошук вінаватых у парушэнні правоў чалавека, якія мелі месца ў гады праўлення ваеннай хунты.

### У гарах не жартуюць

*Два гарналыжнікі, адзін з іх шатландскі студэнт, загінулі на Каліфарнійскім гарналыжным курорце.*

18-гадовы Тары Роджарс з Андрасана (Шатландыя) памёр ад атрыманых траўм галавы пасля падзення і ўдару аб дрэва. Гэта адбылося ў суботу вечарам. Другі гарналыжнік з Сан-Францыска загінуў пры такіх жа акалічнасцях у нядзелю.

### Як адключыць рэактары?

*Атамныя рэактары да гэтага часу застаюцца прычынай галаўнога болю для многіх вучоных і палітыкаў свету.*

На думку экспертаў, 11 з 27 атамных рэактараў на тэрыторыі былога Савецкага Саюза ўяўляюць сабой пагрозу для людзей. Аднак дасягнуць іх адключэння цяжка, таму што тут адсутнічаюць іншыя крыніцы энергіі.

(Працяг на 3-й стар.).

ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ "ЧЫРВОНАЙ ЗМЕНЫ".

## БІЗНЕС-КЛАС



Вядучая рубрыкі Вера ПАЛЯКОВА
Тэл. 68-28-52

### Дарога ў банк

Нацыянальны банк Беларусі разаслаў у камерцыйныя банкі рэспублікі тэлеграму, у якой дазволена пакупка замежнай валюты ўпаўнаважанымі банкамі без якіх-небудзь абмежаванняў. Купленая ў грамадзян валюта падлягае рэалізацыі грамадзянам або Нацбанку ў парадку, усталяваным для рэалізацыі замежнай валюты ў лік перавышэння адкрытай валютнай пазіцыі. Аплата купленай замежнай валюты, як тлумачыцца ў тэлеграме, можа праводзіцца як за наяўны, так і за безнаяўны разлік па адналькаваму абменнаму курсу. Як заявіў на апошняй сваёй прэс-канферэнцыі старшыня Нацыянальнага банка, у насельніцтва на сённяшні дзень скапілася "на руках" каля 500 мільёнаў даляраў ЗША.

### Беларускі бізнесмен вачыма грамадзян

Саюз прадпрымальнікаў Рэспублікі Беларусь плануе ў бліжэйшы час правесці сацыялагічнае апытанне. Пытанні, якія прапануюцца да даследавання, будуць тычыцца адносін насельніцтва да прадпрымальнікаў і адносін саміх прадпрымальнікаў да сваёй дзейнасці. Мэта акцыі — вывучэнне ўсталяванага іміджу беларускага бізнесмена.

### Прыватызацыя ў Літве

На пачатак сакавіка ў Літве прыватызаваныя 4 432 прадпрыемствы (гэта 69 працэнтаў ад усіх, прызначаных для прыватызацыі). Амаль палова — 2 062 буйныя і сярэднія прадпрыемствы — прыватызаваныя шляхам адкрытай падпіскі на акцыі. Астатнія прададзены на аўкцыёнах.

БелаПАН.

### Там, дзе нас няма

Прагледзеўшы статыстыку, мы выявілі вельмі сумны факт: сярод буйнейшых 45-ці выставачных таварыстваў свету няма ніводнага не толькі з Беларусі, але і з усяго былога СССР. Першыя пяць гігантаў выставачнай індустрыі знаходзяцца ў Гановеры, Мілане, Франкфурце, Кёльне і Парыжы. Лейпцыгскае таварыства разам са знакамітым нам Лейпцыгскім кірмашом займае толькі 11-е месца. Сярод усіх краін лідзіруе Германія — 9 выставачных фірм, потым ідуць ЗША — 8, Францыя — 6, Чэхія і Іспанія — па 3.

Лідзія РЫЖАНКОВА.



АКТУАЛЬНАЕ ІНТЭРВ'Ю

# Псіхіятрычны сервіс немагчымы без захавання правоў чалавека

□ Вольга ШАЎКО, "ЧЗ"

*Сёння госць нашай рубрыкі галоўны псіхіятр Міністэрства аховы здароўя Беларусі Уладзімір ІВАНОЎ. Размова тычыцца развіцця псіхіятрычнай дапамогі ў рэспубліцы. Увогуле, яе сістэма ў былым СССР, у Заходняй Еўропе сфарміравалася ў апошнія сто гадоў. І да другой сусветнай вайны мы мала чым адрозніваліся ў гэтай галіне ад краін Захаду. Наадварот, у развіцці пазабальнічнай дапамогі СССР нават быў наперадзе. Аднак потым сітуацыя змянілася, і наш псіхіятрычны сервіс пайшоў па прынцыпова іншаму шляху, чым рабілася гэта на Захадзе. З чым звязаны адрозненні і якая праблема зараз з'яўляецца вядучай у айчыннай псіхіятрыі? З такога пытання пачалася наша гутарка.*

— Гаворачы пра псіхіятрычны сервіс сёння, я хацеў бы з'акцэнтаваць увагу на яго ідэалогіі.

Пасля другой сусветнай вайны ў менталітэце народаў Заходняй Еўропы адбыліся істотныя зрухі. Увага грамадскасці была прыкавана да правоў асобы, да іх захавання. Увогуле канцэпцыя развіцця асобы чалавека была пастаўлена ў галаву вугла. У сувязі з гэтым і адбыліся пэўныя змены ў развіцці псіхіятрыі. Прыкладна 40 гадоў назад пачалося яе рэфармаванне ўпершыню ў Вялікабрытаніі, а потым і ў іншых заходніх краінах. Прычым, за аснову была прынята такая ідэя: калі чалавек пакутуе на нейкія псіхічныя расстройствы, ён, хутчэй за ўсё, не павінен быць ізаляваны ад грамадства, яму трэба аказваць дапамогу па месцы жыхарства, дзе не парываюцца сувязі з прывычным асяроддзем, роднымі, сябрамі. Лічылася зусім відавочным, што знаходжанне ў закрытых псіхіятрычных бальніцах, асабліва доўгія тэрміны, выклікала найцяжэйшыя зрухі ў псіхіцы нават у здаровых асоб. Такая з'ява як шпіталізацыя была пільна вывучана. Аказалася, што людзі, якія паступалі ў бальніцы, нават з не вельмі выражанымі псіхічнымі расстройствамі, за месяцы, гады знаходжання тут пераўтвараліся ў поўных інвалідаў. Сама абстаноўка бальніц дзейнічала на іх прыгнятаюча, чалавек папросту страчваў усе навыкі адаптацыі да знешняга свету.

Таму рэформы ў Заходняй Еўропе ў галіне псіхіятрыі рухаліся ў бок разбуйнення псіхіятрычных бальніц і максімальнага набліжэння сервісу да месца жыхарства чалавека, да звычайнага асяроддзя. Атрымалі развіццё амбулаторыі, кансультацыйныя пункты, дзённыя стацыянары, рэабілітацыйныя структуры. Утвараліся аддзяленні па 15—20 чалавек, яны рассяроджваліся на тэрыторыі мікрараёнаў.

У нас жа пасля другой сусветнай вайны, асабліва, калі былі вынайдзены нейралептычныя сродкі, псіхіятрычныя прэпараты, якія ўплываюць на асобныя псіхічныя працэсы, стала магчымым і зручным маніпуляваць станам чалавека і канцэнтраваць значныя масы псіхічных хворых у вялікіх спецыялізаваных бальніцах.

Асноўная дактрына, хаця яна і не была галосна заяўлена, зводзілася да таго, што чалавек, які пакутуе на псіхічныя расстройствы, павінен быць ізаляваным ад грамадства. Быццам у сценах такіх бальніц хворы атрымае неабходную дапамогу і не будзе ўяўляць небяспекі для грамадства. Гэты шлях развіцця псіхіятрыі выразна прасочваецца і зараз.

У нас створаны вялікія псіхіятрычныя бальніцы. Прычым, яны маюць толькі ложкавы фонд без патрэбных структур і форм рэабілітацыі. Прыклад таму — стварэнне рэспубліканскай псіхіятрычнай бальніцы ў Навінках на 2 300 ложкаў. Прыклад таму і тое, што дагэтуль у планах Магілёўскага ўпраўлення аховы здароўя прадугледжана будаўніцтва бальніцы гэтага профілю на 1500 ложкаў. У Еўропе такіх бальніц ужо даўно няма. На Лондан з 10 мільённым насельніцтвам ёсць усяго тры псіхіятрычныя бальніцы, кожная з якіх налічвае па 200 ложкаў.

Гэта не значыць, што ў Лондане няма іншых псіхіятрычных ложкаў. Хворыя такога профілю дапамогу атрымліваюць па месцы жыхарства. У гэтым вялікі сэнс. Яны не адчуваюць сябе адрынутымі ў грамадстве і лечацца, як любы хворы чалавек. З іншага боку, грамадства прывыкае да таго, што асобы, якія пакутуюць на псіхічныя расстройствы, непазбежна з'яўляюцца яго часткай і маюць патрэбу ў нармальным жыцці.

Я хачу падкрэсліць, што ў працэсе рэфармавання псіхіятрычнага сервісу ў заходніх краінах былі дэталёва распрацаваны мадэлі рэабілітацыйных працэсаў. Гэта значыць, што хворы, які паступае на лячэнне, навучаецца звычайнаму жыццю. Спецыяльна падрыхтаваны персанал вучыць яго хадзіць у магазін і рабіць пакупкі, рыхтаваць ежу і карыстацца пральнай машынай, прыбіраць кватэру і проста гуляць. Псіхічныя хворыя з-за сваіх расстройстваў губляюць частку гэтых навыкаў, а яшчэ, калі доўгі час пабудуць у бальніцы, губляюць іх амаль поўнасцю. На жаль, рэабілітацыйная дапамога ім на Беларусі не аказвалася і не аказваецца.

Мы можам разгледзець канкрэтны прыклад. Асобы з псіхічнымі расстройствамі па нашаму заканадаўству маюць права на льготнае атрыманне жылля. Быццам, гэта гуманна. А на справе кватэру атрымлівае чалавек, які па-простy не можа яе ўтрымліваць. Я лічу, што гэта пустая трата дзяржаўных сродкаў.

У Англіі і Германіі пайшлі іншым шляхам. Такім хворым там не прадстаўляюць жыллёвых ільгот, але іх змяшчаюць у спецыяльныя дамы, дзе людзі жывуць маленькімі групамі па 5—6 чалавек, з дапамогай і пад кантролем персаналу яны вучацца існаваць у нармальным грамадстве.

**— Такім чынам, відавочна, што псіхіятрычнаму сервісу на Беларусі патрабуецца рэформа. У якім накірунку яна можа развівацца?**

— Цяпер я не магу заклікаць да таго, каб была ліквідавана рэспубліканская псіхіятрычная бальніца. Бо калі мы пачнём урэзваць яе ложкавы фонд, хворыя ўвогуле застануцца без дапамогі.

Асноўная рэарганізацыя на сённяшні момант — гэта кансервацыя сістэмы дапамогі, якая існуе, але разам з тым планіраванне развіцця па-за бальнічнага сервісу. Прычым мы павінны развіваць падрыхтоўку кадраў у гэтым напрамку. І перш за ўсё, навучаць сярэдні медыцынскі персанал, рыхтаваць таксама сацыяльных работнікаў. Дарэчы, апошнія павінны займацца арганізацыяй быту хворага, дапамагаць у наладжванні кантактаў паміж хворым і дзяржаўнымі органамі з мэтай вырашэння шматлікіх сацыяльных пытанняў.

**— Вядомы факты, калі былыя пацыенты псіхіятрычных медустаноў абвінавачвалі медыкаў у пастаноўцы няправільных дыягназаў. Такія прэтэнзіі разглядаліся ў судах. У якой ступені гэтыя скаргі маюць пад сабой падставу?**

— Нейкім чынам гэта так. Уся бяда ў тым, што мы карыстаемся зараз састарэлай класіфікацыяй псіхічных расстройстваў і захворванняў. Яна міжволі падкрэслівае нейкую фатальнасць хваробы. Увесь жа свет ідзе іншым шляхам, сэнс якога зводзіцца да прынцыпу: дапамажы тут і зараз, не думай, што будзе праз 20 гадоў. Няважна, што калісьці чалавек перанёс прыступ псіхозу, калі зараз гэтага псіхозу няма, нельга каб такі дыягназ суправаджаў асобу ўсё жыццё. Відавочна, што многія дыягназы маглі б быць адменены, калі б мы карысталіся сучаснымі стандартамі. Я лічу, што на падставе клінічных паказчыкаў трэба задавальняць прэтэнзіі людзей, якія аднакратна трапілі на лячэнне.

На жаль, чыста нарматыўныя рамкі не даюць нам гэта рабіць у поўным аб'ёме.

**— Што трэба для таго, каб нашы псіхіятры сталі карыстацца сучаснымі класіфікацыямі ў дыягностыцы?**

— Добрая воля вучоных-псіхіятраў. Яны, на маю думку, павінны ўзяць на сябе ролю лідэра ў рэфармаванні псіхіятрычнага сервісу. На жаль, гэта не зроблена.

Перш за ўсё, Беларускае таварыства псіхіятраў павінна вынесці прынцыповае рашэнне аб тым, што такая рэформа патрэбна, аб яе шляхах і этапах. Я магу сказаць, што кіраўніцтва Міністэрства аховы здароўя Беларусі больш востра адчувае гэтыя праблемы, чым псіхіятры. Але міністэрства не можа вырашаць такія пытанні дырэктыўна. Мы паважаем думку вучоных і спецыялістаў, яны ж не спяшаюцца ў дзень сённяшні.

**— Стала модным адзначаць асобы псіхічны стан сённяшняга грамадства. Прычым, усё ў горшы бок. Ці згодны Вы, Уладзімір Уладзіміравіч з тым, што з псіхікай у нас не ўсё ў парадку з-за цяжкасцей постперабудовачнага часу?**

— Гэта адзін з міфаў псіхіятрыі. Калі ўважліва паглядзець на гісторыю развіцця чалавецтва ў гэтым аспекце, няма ніякіх даных, якія б сведчылі, што мы жывём горш за нашых продкаў, што мы адчуваем большую колькасць стрэсаў. Чалавецтва тысячагоддзі праследавалі голад, войны, стыхійныя бедствы, эпідэміі чумы ўносілі да адной чацвёртай насельніцтва Еўропы. Я лічу, што ўмовы жыцця ў нас зараз значна лепшыя. Нельга ўсур'ёз разглядаць як гістарычны адрэзак часу 5—10 гадоў.

Тое, што зараз людзі ўспрымаюць наш час хваравіта, гаворыць аб тым, што мы прывыклі жыць у больш стабільным і камфортным грамадстве, бо ўсе праблемы вырашалі за нас. А цяпер мы самі павінны нешта рабіць. Сама па сабе гэтая з'ява не можа быць цяжкай пакутай.

Я магу адзначыць толькі два сур'ёзныя моманты: гэта цяжкая алкагалізацыя насельніцтва і катастрафічны рост наркаманіі. Што тычыцца апошняга, то ў 1992—93 гг. рост наркаманіі пачаўся амаль у геаметрычнай прагрэсіі. Так, калі з 1985 па 1991 гады, мы выяўлялі штогод каля 100—140 новых хворых на наркаманію, то ў 1992 — 290 чалавек, 1993— 480. Я думаю, гэта звязана з дзеяннем наркамафіі, арганізаванай злачыннасці, якая пачала фарміраваць нелегальны рынак збыту наркотыкаў. Гэтае пытанне тычыцца больш праваахоўных органаў. Аднак, думаю, што ў рамках праграмы барацьбы са злачыннасцю, якая зараз рыхтуецца, мы атрымаем сродкі і магчымасці, каб палепшыць сваю работу ў гэтай галіне.

**— І яшчэ адна ўласцівасць характэрна для нашага грамадства. Неяк пагалоўна людзі пачалі захапляцца лячэннем у экстрасенсаў і ведзьмароў, вераць варажбітам і прадказальнікам. Між іншым, дзеянні гэтых лекараў таксама звязаны з умяшаннем у чалавечую псіхіку. Што Вы, як псіхіятр, думаеце паводле такой дапамогі?**

—Як чалавек, які атрымаў навуковую адукацыю, я не вельмі веру ў такія рэчы. Для мяне што не даказана навукай не ёсць факт. І ў сур'ёзнай сусветнай псіхіятрычнай літаратуры мы не знойдзем пераканаўчых фактаў аб гэтым.

Трэба разумець, што лячэбны эфект экстрасенсаў дадаецца эфектам пустышкі і заснаваны на самаўнушэнні. Чалавек верыць, што атрымае дапамогу, і ў яго аўтаматычна мабілізуюцца ўнутраныя рэсурсы, яму сапраўды становіцца лепей. У гэтым плане парамедыцынская дзейнасць карысная. Сусветная арганізацыя аховы здароўя дазваляе яе ў краінах, дзе псіхіятрычны сервіс наладжаны дрэнна. Тут дзейнічае прынцып: няхай будуць варажбіты і шаманы, чым увогуле нічога.

У нас жа трэба ўлічыць асаблівасць славянскага характару, які чакае цуда, каб нехта нешта даў і менш прыкласці для гэтага намаганняў самому.

Уся заходняя псіхіятрыя пабудавана на тым, што чалавек актыўна супрацоўнічае з псіхіятрам, удзельнічае ў лячэбным працэсе. Большасць нашых людзей жадаюць прыйсці да ўрача і імгненна атрымаць поўнае вылечванне. Але прыроду не падманеш і цудаў не бывае.

Я лічу, што навуковыя традыцыі ў нашай медыцыне ўсё ж перамогуць, што з паляпшэннем эканамічнай сітуацыі мы здолеем развіваць псіхіятрычны сервіс і шырокія масы змогуць ім карыстацца ў большай ступені.

## СПАДЧЫНА



**Яшчэ адзін храм —царква Серафіма Сароўскага Цудатворца — з'явіўся на зямлі палескай. Пабудаваны ён у адным з самых маладых гарадоў Брэстчыны — Белаазёрску, прычым у рэкордныя тэрміны — усяго за паўтара года. Храм асвечаны ўладыкам Філарэтам.**

**У перапынках паміж богаслужэннямі заканчваюцца аддзелачныя работы. Хутка мастакі пачнуць распісваць купалы і сцены, іканастас. Пабудаваны храм на грошы, сабраныя веруючымі, а таксама на ахвяраванні мясцовых калгасаў, саўгасаў, арганізацый і кааператываў.**

**Фота Эдуарда КАБЯКА, БЕЛІНФАРМ.**

# Чаму пуста ў бюро знаходак?

Мой знаёмы, мінчанін, быў проста ў роспачы: забыў у тралейбусе парасон. Рэч для яго незвычайная — падарунак блізкага чалавека. Кінуўся да дыспетчара на канцавой станцыі, патэлефанаваў у бюро знаходак — безвынікова... Хтосьці паквапіўся на чужое.

Гэты выпадак падштурхнуў мяне звярнуцца ў бюро знойдзеных рэчаў ВА "Мінскгарэлектратранс".

— Якое цяпер бюро! — з горыччу і жалем адказала загадчыца гаспадаркі службы руху Ніна Антонаўна Бурдыцкая. — Раней было, ды ўсё выйшла... Вось толькі адна чорная жаночая сумачка з дакументамі і ключамі ляжыць амаль месяц, чакае, пакуль па яе прыйдуць. Я ўжо і пісьмо напісала гаспадыні. А больш у нас нічога няма. Увогуле, за ўвесь мінулы год паступіла ўсяго 12 рэчаў, пакінутых у транспарце.

— Можа, людзі сталі больш уважлівымі, менш губляюць?...

— Мяркуючы па тым, што колькасць пасажыраў узрастае, — наадварот. Я лічу (а працую тут больш як трыццаць гадоў), што справа зусім у іншым. Проста людзі становяцца абыякавымі да чужой бяды, сквапнымі. Прыбіраюць да рук згубленую рэч або знарок выкідваюць яе. Лянуюцца патраціць крыху часу, каб перадаць нам знойдзенае. Ніхто не застрахаваны ад згубы, але далёка не ў кожнага хапае сумлення вярнуць тое, што яму не належыць.

— А ці часта званяць да вас тыя, хто забыў у транспарце якую-небудзь рэч?

— Не, непакояць нас усё менш і менш. Адчуваюць, што шанцаў знайсці згубленае амаль што няма... А быў час, калі забытых рэчаў набіраўся цэлы пакой. Не паверыце, але аднойчы прынеслі нават... тэлевізар. Людзі, на жаль, мяняюцца не ў лепшы бок.

Вось такая наша рэчаіснасць... Але, як кажуць, у любым выпадку не страчвайце надзеі, звяртайцеся ў бюро знаходак на адрас: вул. Варвашэні, 3, тэл.33-36-56.

Андрэй АЛЬШАНСКІ.

УВАГА: КОНКУРС!

## "Чарнобыль у маім лёсе"

Сачыненне на такую тэму прапанавалі для школьнікаў Сацыялагічны саюз "Чарнобыль" і газета "Набат".

Прапанова абмеркавана і падтрымана Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь. Падключаны абласныя ўпраўленні.

Так, да ўвагі вучняў сярэдніх школ і навучэнцаў прафесійна-тэхнічных вучылішчаў: абвяшчаецца конкурс на лепшае сачыненне па тэме "Чарнобыль у маім лёсе", у вольным пераказе матэрыялу. Мова беларуская ці руская — на выбар.

Тэрмін конкурсу — да 26 красавіка. На разгляд журы ў Мінску будуць прымацца конкурсныя сачыненні, прачытаныя і ацэненыя спецыялістамі ў раённых і абласных органах адукацыі.

Мяркуецца, што вучні будуць пісаць сачыненні як на ўроках, так і дома, па заданню настаўнікаў, а таксама і самастойна, калі ў тым ці іншым раёне конкурс не будзе арганізаваны.

Самастойна напісаныя сачыненні дазваляецца перасылаць проста на адрас журы ў Мінску.

Аўтары лепшых сачыненняў будуць адзначаны каштоўнымі падарункамі і пуцёўкамі ў прэстыжныя санаторыі.

Лепшыя сачыненні плануецца выдаць асобным зборнікам.

Да ўдзелу ў падвядзенні вынікаў конкурсу запрошаны ДзяржкамЧарнобыль.

Адрас журы: 220048, Мінск, вул.Мяснікова, 39 "Набат" (на канверце павінна быць паметка: "На конкурс"). Тэл.(0172) 27-84-20.

ПОСПЕХУ!

Ад аргкамітэта:
Георгій БУТРЫМ, намеснік міністра адукацыі Рэспублікі Беларусь,
Васіль ЯКАВЕНКА, пісьменнік, галоўны рэдактар газеты "Набат".

*Сто артыкулаў*

# СЯЛЯНЕ МАРЫЛІ



*САРОКІН Анатоль Мікалаевіч, вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі АН Беларусі, доктар гістарычных навук. Даследуе праблемы сацыяльна-эканамічнай і палітычнай гісторыі Беларусі XX ст., гістарыяграфіі. Аўтар шэрагу манаграфічных і калектыўна напісаных кніг, шматлікіх артыкулаў. Друкаваўся і на старонках нашай газеты. Сёлета павінна выйсці кніга ў выдавецтве "Навука і тэхніка" "Эксперымент: людзі і зямля".*

Кастрычніцкі пераварот 1917 года прадвызначыў развіццё якасна новых аграрных адносін на той тэрыторыі Беларусі, якая трапіла ў склад БССР. Варта адзначыць і тое, што вырашэнне зямельнага пытання (дарэчы, як і іншых) на тэрыторыі Савецкай Беларусі адбывалася на аснове прававых норм Расійскай Рэспублікі (РСФСР). У адпаведнасці з імі мясцовай уладай быў распрацаваны шэраг дакументаў па размеркаванню зямлі, "Тэзісы па аграрнаму пытанню" (прынятыя II з'ездам Саветаў БССР у снежні 1920 года).

Аднак зыходнай базай у выпрацоўцы аграрнага заканадаўства, як і крокаў па рэалізацыі яго, з'явіліся нормы Дэкрэта аб зямлі. Як вядома, ён быў прыняты II Усерасійскім з'ездам Саветаў рабочых і салдацкіх дэпутатаў (26—27 кастрычніка 1917 г.). У адпаведнасці з патрабаваннямі шырокіх сялянскіх мас Дэкрэт заканадаўча замацаваў адмену права прыватнай уласнасці на зямлю, забарону яе продажу, арэнды і закладу. Уся зямля абвяшчалася ўсенародным здабыткам, г.зн. станавілася дзяржаўнай уласнасцю. Гэта азначала фактычную нацыяналізацыю — замест абвешчанай сацыялізацыі — зямлі, ажыццяўленне галоўнага патрабавання аграрнай праграмы партыі бальшавікоў.

Ператварэнне зямлі ў агульнанародны здабытак, паводле слоў У.І.Леніна, дало магчымасць дзяржаве стварыць "зямельны лад найбольш гнуткі ў сэнсе пераходу да сацыялізму" (Ленин В.И. Полн.собр.соч. Т.37. С.326). Мэтазгоднасць гэтай меры і сёння ставіцца пад сумненне многімі палітыкамі і эканамістамі. Бо гэта азначала ліквідацыю эканамічна незалежных класаў, фактычна паставіла сялян у поўную залежнасць ад дзяржавы, ператварыла іх толькі ў карыстальнікаў дзяржаўнай зямлі.

Напачатку, гледзячы па ўсім, гэта не выклікала асаблівай заклапочанасці ў сялянскіх мас. Яны ў цэлым былі спакушаны прадастаўленай магчымасцю ліквідацыі так званага непрацоўнага землекарыстання і ўраўняльнага (роўнага) бязвыплатнага размеркавання зямлі. Ці не таму націск улады, які ўзмацняўся, на дзелавых і прадпрымальных людзей ("буржуяў", "міраедаў-кулакоў" і "контру"), знаходзіў пэўную грамадскую падтрымку ў закліках сілай расправіцца з імі ў імя утапічнага раю жабракоў? Хаця шмат якім сялянам, трэба меркаваць, было няўцям, што з пазбаўленнем іх права ўласнасці на зямлю ім прадвызначаўся лёс спачатку дзяржаўных прыгонных без права перамены месца пражывання (калгаснікаў), а потым паслухмяна-зладзеяватых парабкаў, эксплуатуемых "уласнікам" — старшынёй калгаса ці дырэктарам саўгаса.

Ды што сяляне? У той час нават у колах партыйна-палітычнай эліты, палітычна актыўнай часткі грамадства ўзважанаму падыходу да асэнсавання пытання не надавалася належнага значэння. Таму невыпадкова хуткая адмова лідэраў бальшавіцкага рэжыму ад супрацоўніцтва з палітычнымі саюзнікамі па рэвалюцыі.

Як бы там ні было, але дзяржава, ператварыўшы зямлю ў агульны здабытак, авалодала адной з камандных вышынь у эканоміцы для наступнага пераводу дробнай сялянскай гаспадаркі на рэйкі адзінай формы гаспадарання, так званай буйной сацыялістычнай вытворчасці. Гэта прывяло ў выніку да аддзялення непасрэдных вытворцаў ад уласнасці на сродкі вытворчасці, гвалтоўнага пазбаўлення сялян зямлі і ператварэння іх у абыякавых і пасіўных грамадзян, з аднаго боку, і прысвойвання вынікаў агульнай працы ў інтарэсах апаратнай піраміды — з другога. Больш таго. Гэта непазбежна вяло да поўнага знішчэння прыватнай, персаніфікаванай уласнасці і разбурэння культуры ўласнасці, яе дабрачыннай ролі як здаровага стымулятара да напружанай працы, прадпрымальнасці і адказнасці, татальнаму адзяржаўленню ўсіх бакоў жыцця вёскі.

Разам з тым права карыстання зямлёй атрымалі ўсе грамадзяне, якія жадалі апрацоўваць яе самі, сям'ёй або ў таварыстве без наёмнай працы, на аснове ўраўняльнага землекарыстання і свабоднага выбару форм карыстання зямлёй (надворная, хутарская, абшчынная, арцельная). Прычым Дэкрэт не патрабаваў, каб пры адабранні памешчыцкіх маёнткаў іх былыя ўласнікі пазбаўляліся ўсіх зямельных участкаў. Тым самым савецкая ўлада давала ім магчымасць весці працоўную гаспадарку без выкарыстання наёмнай працы. На жаль, гэтая мера не вытрымала выпрабавання часам.

Характэрна, што Другая Устаўная грамата, якая, па сутнасці, з'яўлялася праектам Канстытуцыі Беларускай Народнай Рэспублікі, прынятая 9 сакавіка 1918 года, абвяшчала: "Права прыватнай уласнасці на зямлю касуецца. Зямля перадаецца без выкупу тым, хто сам яе апрацоўвае". Лес, воды і нетры зямлі аб'яўляліся ўласнасцю БНР. Праўда, ажыццявіць палажэнні граматы дзеячам БНР не ўдалося, бо яны не мелі фактычнай улады.

Асноўныя палажэнні Дэкрэта аб зямлі атрымалі далейшае развіццё ў чарговых заканадаўчых актах. У тым ліку ў законе "Аб сацыялізацыі зямлі" (зацверджаны УЦВК 27 студзеня (9 лютага) 1918 г.), у "Палажэнні аб сацыялістычным землеўпарадкаванні і аб мерах пераходу да сацыялістычнага земляробства" (прынята УЦВК у лютым 1919 г.). У адпаведнасці з сацыялістычным выбарам і на аснове "рэвалюцыйнага энтузіязму" быў вызначаны курс на прыярытэтнае развіццё грамадскіх (калектыўных) форм уласнасці. У прыватнасці, у Палажэнні дзеля рэалізацыі мераў перыяду "ваеннага камунізму", калі рабіліся захады "штурмам" скрышыць капіталізм, а калектывізацыю (аб'яднанне ў калгасы) правесці ў сціслыя тэрміны (нават за тры гады), указвалася на неабходнасць разглядаць індывідуальнае землекарыстанне як часовае і аджываючае. Атрымалася, што свабоднае і раўнапраўнае развіццё ўсіх форм землекарыстання, замацаванае Дэкрэтам, фактычна знікла, не паспеўшы зацвердзіцца.

Вырашэнне праблемы набыло каманднa-адміністрацыйны характар. Гэтаму спрыялі надзвычайныя меры савецкай улады, палітыка "ваеннага камунізму". З яе дапамогай пад выглядам мабілізацыі ўсіх рэсурсаў народнай гаспадаркі на абарону Савецкай рэспублікі разгарнулася выкарчоўванне прыватнай уласнасці сялян. Яно развівалася па лініі паскоранага пераўтварэння памешчыцкіх гаспадарак у грамадскія ці калектыўныя, пераразмеркавання так званых непрацоўных зямель пад сцягам барацьбы з кулацтвам і іншымі класавымі ворагамі працоўных. У самой вёсцы такая палітыка знайшла трывалую падтрымку ў люмпенізаванай масы, якая ядналася вакол "камітэтаў беднаты" (дзейнічалі ў другой палове 1918 — пачатку 1919 г.).

Нельга не адзначыць уздзеяння на працэс пазбаўлення сялян права арганізоўваць вытворчасць у адпаведнасці з кан'юнктурай, свабодна распараджацца атрыманай прадукцыяй. Яно знайшло сваё адлюстраванне ва ўвядзенні на пачатку 1919 г. "харчразвёрсткі" — абавязковай здачы гаспадаркамі дзяржаве, як тады казалі, усіх "лішкаў" сельскагаспадарчай прадукцыі; устанаўленні жорсткага кантролю ўлады за вядзеннем імі сваёй гаспадаркі на падставе пасяўнога плана і цвёрдага абавязковага задання па здачы прадукцыі дзяржаве; забароне прыватнага гандлю.

Вынікі гэтага не прымусілі сябе чакаць. Арыентацыя масавай свядомасці на разбурэнне назапашанага пад лозунгам усеагульнай роўнасці рэзка абвастрыла абстаноўку: грамадства ахапіла разбуральнае вар'яцтва, безадказнае нецярпенне да процілеглай думкі і сляпы радыкалізм.

У выніку ў 1918—1919 гг. на Беларусі (асабліва ў Мінскай губерні) мелі месца фарсіраванае будаўніцтва саўгасаў і калгасаў на базе памешчыцкіх маёнткаў, адміністрацыйны націск на бядняцка-батрацкія слаі вёскі з мэтай паскоранай арганізацыі калектыўных гаспадарак. Не сакрэт, напрыклад, што Магілёўскі губземаддзел, аб'явіўшы ўсю губерню на ваенным становішчы, вырашыў увесь складаны сельскагаспадарчы інвентар узяць на ўлік, увесці прымусовую апрацоўку пустуючых зямель і арганізаваць камунальную гаспадарку. У Слуцкім павеце Мінскай губерні практыкавалася паскоранае стварэнне камун з былых буйных памешчыцкіх маёнткаў. У першай палове 1919 г. "надзвычайным рэвалюцыйным падаткам" былі абкладзены асноўныя масы сялян ЛітБела. Як сведчаць даследаванні апошняга часу, метады гаспадарання, палітыка падаткаабкладання сялян з боку германскіх і польскіх акупацыйных уладаў былі не такімі жорсткімі, як у бальшавікоў.

Час паказаў: уяўленні найбольш актыўнай часткі бальшавікоў аб магчымасці вырашэння задач сацыялістычнага парадку шляхам актывізацыі "класавай барацьбы" і "кавалерыйскай атакі" на "дробнатаварную стыхію" былі дачаснымі. Сяляне ў сваёй масе не былі гатовымі да такога пераходу. Таму яны выказвалі сваю незадаволенасць бальшавіцкім рэжымам не толькі на з'ездах Саветаў, але і шырокай хваляй стыхійных узброеных паўстанняў. Імі была ахоплена, як высвятляецца, уся тэрыторыя Беларусі. Так, у другой палове 1918 года антыбальшавіцкімі сялянскімі паўстаннямі былі ахоплены Аршанскі, Гарадоцкі і Дрысенскі паветы Віцебскай; Горацкі, Клімавіцкі, Быхаўскі і Чэрыкаўскі паветы Магілёўскай губерняў. У 1919—1920 гг. антысавецкія паўстанні сялян не толькі не сціхалі ў названых паветах, але і знаходзілі свой працяг у новых ачагах сялянскіх хваляванняў. І гэта, нягледзячы на жорсткія расправы над мяцежнікамі, перыядычна ўводзімага савецкай уладай стану аблогі, ваеннага або надзвычайнага становішча. Зразумела, у спалучэнні з майстэрскім выкарыстаннем фактару лаяльных у цэлым адносін сялян да ўлады з-за страху страты імі сваіх зямельных надзелаў у выпадку "белай рэстаўрацыі". Інакш кажучы, парадку на аснове нагнятання атмасферы страху і насілля. У прыватнасці, Мінскі ваенны савет у загадзе ад 16

# ШАНОЎНЫЯ СПАДАРЫ!

Інфармацыйна-рэкламнае агенцтва "ЧЗ-інфарм" прапануе Вам унікальную магчымасць адкрыць новую старонку ў рэкламе тавараў і паслуг. Толькі ў нас спалучэнне нагляднасці і поўнай інфармацыі аб тавары дасць Вам і Вашым патэнцыяльным кліентам магчымасць лёгка зарыентавацца ў рынку збыту.

Мы гарантуем аператыўнае размяшчэнне Вашай рэкламы без дадатковых затрат на афармленне.

Вам дастаткова патэлефанаваць: *(0172) 68-29-56, 68-29-45, 32-21-03 (факс),*— і мы ў самы кароткі тэрмін падрыхтуем фотаздымкі Вашай прадукцыі, размесцім іх у нашай газеце і любых іншых выданнях па Вашаму выбару.



**Шырокі выбар і неабмежаваныя магчымасці.**

"Жанр".
Дом гандлю "Свіслач".
*т. 391-196.*
*ф. 343-237.*

**Цацкі з Італіі**



Азеляняюць памяшканні штучнымі і жывымі раслінамі
фірма "Белы комін".
*31-65-28; 53-75-41,*
СП "Лаура дэ Даніэль".
*68-77-21.*

**Кветкі для Вас**



Любімыя дыснэеўскія героі для Вашых дзяцей!
"Сувенір"
*35-52-44.*

**Мяккія цацкі з Польшчы**



Гэта стыльнае адзенне маладых!
«Кіко інтэрнэшнл» — афіцыйны дылер фірмы "Levi's" у Рэспубліцы Беларусь.
*27-78-72.*

**Джынсы "Levi's"**



Прэстыжныя ручкі "Parker" прапануе
фірма "Джэнці"
*39-42-33;*
*39-53-97.*

**"Parker"**



"НОВЫ ВЕК"
*66-01-22;*
*69-12-12.*
*ф.66-16-07.*

**Дыктафоны**



"ДЖЭНЦІ"
*39-42-33;*
*39-53-97.*

**Музычныя цэнтры**



"Новы век"
"CASIO"
*66-01-22;*
*69-12-12.*
*ф. 66-16-07.*
"Мегагерц"
"CITIZEN"
*63-71-13.*

**Электронныя запісныя кніжкі**



"НІК"
*25-16-31.*
"НОВЫ ВЕК"
*66-01-22;*
*69-12-12.*
*ф. 66-16-07.*

**Касавыя апараты "CASIO"**



"Дыабайт"
*36-74-70.*
"Inform Test"
*64-95-32;*
*64-83-38.*
"Забела"
*66-96-31.*

**Касавыя апараты**



"НОВЫ ВЕК"
*66-01-22;*
*69-12-12.*
*ф. 66-16-07.*

**Дэтэктары валюты "Regula"**



"Нік"
*25-16-31.*
"Электра-сэрвіс і К^а"
*66-02-15.*
"Басіко"
*36-40-19.*

**Дэтэктары валюты "Superscan", "Cashscan"**



"ЦТД"
*39-43-07.*

**МікраЭВМ "Электроніка"**



"Дайнова"
*30-89-26; 30-89-27.*
"Таір"
*76-90-78; 76-90-80.*
"Бі-праект"
*31-95-16; 31-24-93.*
"Рэста"
*78-68-19, 78-84-90.*

**Камп'ютэры**



"Нік"
*25-16-31*
"ЦТД"
*39-43-07.*

**Калькулятары "CITIZEN"**



"ЦТД"
*39-43-07.*

**Машыны для падліку грошай**



"Джэнці"
*39-42-33;*
*39-53-97.*
"Дысперада"
*63-90-48;*
*63-91-22.*

**Капіравальныя апараты "Mita"**



"ЦТД"
*39-43-07.*
"Сан"
*(01716) 5-42-66.*

**Партатыўныя электронныя пішучыя машынкі "Ромашка"**



ВКФ "Жанр"
*391-196.*
*ф. 343-237.*
СП "Капры"
*58-73-42;*
*51-63-82;*
*т/ф 58-95-89.*

**Італьянская мяккая мэбля**



"Жанр".
Кухонная і жылая мэбля з Італіі са складаў і пад заказ.
*тэл. 391-196;*
*факс 343-237.*

**Кухонныя гарнітуры "ELSA MODA ITALIA"**



"Джэнці"
*39-42-33;*
*39-53-97.*
"Бавіс"
*77-28-35.*
"Дайнова"
*30-89-27.*

**Тэлефаксы "Panasonic"**



"Новы век"
*66-01-22;*
*69-12-12.*
*ф. 66-16-07.*
"Цівалі"
*27-00-11.*

**Міні-АТС і тэлефоны "Panasonic"**



"ЦТД"
*39-43-07.*

**Радыётэлефоны "International"**




"Мегагерц"
*63-71-13.*
"Электра-сэрвіс і К^а"
*66-02-15.*
"ЦТД"
*39-43-07.*

**Радыётэлефоны "Panasonic"**



"ЦТД"
*39-43-07.*
"Дуплет"
*45-42-90.*

**Тэлефоны "Siemens"**



"КІКО інтэрнэшнл"
*тэл. 277-872;*
*ф. 273-933.*

**Французскія віны**




Гандлёвы Дом "Euromix"
Exclusive Distributor
"Procter & Gamble"
*385-464;*
*385-892.*

**Усё для дома**



Фірма "Суэртэ"
задаволіць практычнасць мужчын, вытанчанасць жанчын і капрыз дзіцяці мадэльным абуткам са скуры.
*69-03-25.*

**Абутак з Іспаніі**

Заснавальнікі: ЦК СМБ, калектыў рэдакцыі газеты "Чырвоная змена".
Выдавец: газетна-выдавецкае закрытае акцыянернае таварыства "Маладняк", 220013 г. Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а.
Газета ўзнагароджана ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга. Набрана і звярстана ў наборна-выдавецкім бюро "ЧЗ".
Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку", 220013, г.Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79.
Выходзіць у аўторак, чацвер і суботу.

*Аўтары надрукаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць прыведзеных фактаў. Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы ў парадку абмеркавання, не падзяляючы пункту гледжання аўтара.*

Час падпісання ў друк: па графіку – 19.20, падпісана – 19.20.

М. 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П. 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

Індэкс 63129. Тыраж 65 500. Зак. 29.

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220013 г.МІНСК, вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а.

ТЭЛЕФОНЫ: прыёмная – 68-26-27; намеснікі галоўнага рэдактара – 32-12-82, 68-29-45; сакратарыят – 68-29-28; аддзел палітыкі – 68-25-55; аддзел эканомікі і сацыяльных праблем – 68-28-52; аддзел культуры і гістарычнай спадчыны – 68-29-56; аддзел маральна-этычнага выхавання – 68-25-93; аддзел пісьмаў і вывучэння грамадскай думкі – 68-28-32; аддзел інфармацыі – 68-27-21; аглядальнікі – 68-29-26; аддзел ілюстрацыі – 68-27-74, 68-25-41; ул. кар. па Брэсцкай вобл. – (01622) 5-57-57, ул. кар. па Віцебскай вобл. – (02132) 2-36-37.;
РЭКЛАМНАЯ СЛУЖБА – тэл.68-29-56, 68-29-45. Факс: 32-21-03.

Расцэнкі на рэкламу ў сакавіку: I паласа —5000 руб./ кв.см, IV паласа — 4000 руб./кв.см.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:
Сяргей БАЛЦЭВІЧ (адказны сакратар), Валянцін БАРЫСЕВІЧ, Валерый ВАРАНЕЦКІ, Валерый ІВАНОЎ, Мікалай ЛАРКОВІЧ, Віктар ЛЮКОВІЧ, Алесь МАСАРЭНКА, Станіслаў НІЧЫПАРОВІЧ, Алесь САЛАМАХА (першы нам.галоўнага рэдактара), Павел СІМАНАЎ (нам.галоўнага рэдактара, дырэктар агенцтва "ЧЗ-інфарм"), Алег СЛУКА, Наталля СТРАЛКОВА, Кузьма ШАПЛЫКА, Вольга ШАЎКО.

*Галоўны рэдактар*
*Уладзімір БЕЛЬСКІ*